

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

# Газета Слонімская

*№ 6 (6). Слонім. 11 — 17 ліпеня 1997г.* *Незалежны грамадска—палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*

**НАШЫ ЗЕМЛЯКІ** *10 ліпеня — 53-гадавіна з дня вызвалення Слоніма*

# Слонімскія генералы

**Нікіфар Ігнатавіч Герка нарадзіўся ў 1902 годзе ў вёсцы Чапялёва ў сялянскай сям'і. Мусіць, нават самы вялікі празорлівец не ўбачыў бы ў гэтым вяскоўным хлопчыку будучага военачальніка.**

Нікіфар Герка яшчэ юнаком уступіў у Чырвоную Армію, ваяваў на франтах грамадзянскай вайны. Пасля вучыўся і зноў служыў, паказаў сябе здольным афіцэрам. У чэрвені 1941 года генерал Герка быў камандзірам танкавага палка, які дыслацыраваўся ў Літве. Гэта было, бадай, адно з адзіных вайсковых падраздзяленняў Чырвонай Арміі, якое пачало баявыя дзеянні на варожай тэрыторыі. Ужо ў першы дзень вайны танкісты Герка пачалі атакаваць немцаў і ўварваліся на тэрыторыю Усходняй Прусіі. Тым самым яны нанеслі ворагу значныя страты, але потым вымушаны былі адступіць.

Вайну Нікіфар Ігнатавіч скончыў ужо генерал— маёрам танкавых войск, быў узнагароджаны шматлікімі савецкімі, польскімі ордэнамі і медалямі. Пасля выхаду ў адстаўку, ён жыў на Украіне, у Львове, дзе і памёр у 1973 годзе.

**Уладзіслаў Вікенцьевіч Корчыц нарадзіўся таксама ў сялянскай сям'і ў вёсцы Багданавічы Слонімскага павета 1 верасня 1893 года. У 18 гадоў ён закончыў у Слоніме пачатковае вучылішча, але каб вучыцца далей патрэбны былі грошы, якіх не мелі яго бацькі. Таму юнак пайшоў працаваць батраком ...**

З 1914 года пачалася вайсковая служба Уладзіслава: спачатку першая сусветная вайна, пасля грамадзянская.

Ён прайшоў шлях ад салдата да генерала. Перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны Уладзіслаў Вікенцьевіч камандаваў дывізіяй, а пад час вайны атрымаў пасаду намесніка камандуючага арміі. Генерал—палкоўнік Корчыц закончыў свой баявы шлях у Войску Польскім, куды быў адкамандзіраваны для павышэння яго баяздольнасці.

У пасляваенныя гады наш зямляк займаў пасаду начальніка генеральнага штаба Войска Польскага, віцэ—міністра нацыянальнай абароны Польшчы. Пасля выхаду ў адстаўку, ён жыў у Маскве. 18 кастрычніка 1966 года Уладзіслаў Корчыц памёр.

**Яўген Варфаламеевіч Леашэня нарадзіўся 24 снежня 1900 года ў Альбярціне ў рабочай сям'і. Юнаком працаваў разам з бацькамі на суконнай фабрыцы графа Пуслоўскага, вучыўся ў Слонімскім рэальным вучылішчы.**

У 1919 годзе Яўген Леашэня ўступіў у Чырвоную Армію, вызначыўся ў баях на Паўднёвым фронце. Потым Яўген Варфаламеевіч скончыў ваенную акадэмію імя Фрунзе. У гады вайны пад яго кіраўніцтвам будаваліся абарончыя збудаванні каля Масквы, Севастопаля, Адэсы. Так здарылася, што генерал—лейтэнант Леашэня вызваляў свой родны Слонім, дайшоў да Берліна, удзельнічаў у разгроме японскай Квантунскай арміі на Далёкім Усходзе.

У пасляваенны час ён выкладаў у ваенных акадэміях Польшчы і Савецкага Саюза. Быў заўсёды шаноўным госцем на радзіме. Генерал Леашэня напісаў трохтомную гісторыю Слонімшчыны, якая да гэтага часу яшчэ так і нідзе не надрукавана. Яўген Варфаламеевіч памёр 6 снежня 1981 года ў Маскве.

**Мадэст Абрамавіч Шамашкін нарадзіўся 17 чэрвеня 1895 года ў Слоніме. У 1912 годзе ён скончыў Слонімскае рэальнае вучылішча, а праз сем гадоў экстэрнам закончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта і запісаўся добраахвотнікам у Чырвоную Армію.**

Так лёс на ўсё жыццё звязаў яго з ваеннай медыцынай. Ён прайшоў шлях ад палкавога ўрача да начальніка медыцынскага ўпраўлення Паўночна—Заходняга фронта ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Дарэчы, вядомы такі выпадак. Аднойчы генерал—маёр Шамашкін узяў ваенны самалёт і з Рыгі прыляцеў у Слонім. Горад тады быў у руінах, літаральна знішчаны пад час жорсткіх баёў. Мадэст Абрамавіч хадзіў па знаёмых вуліцах, якія нагадвалі яму пра яго ранае дзяцінства.

Пасля вайны генерал Шамашкін узначальваў кафедру Ваенна—медыцынскай акадэміі, стаў доктарам медыцынскіх навук, быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Ён памёр 16 жніўня 1972 года.

Падрыхтаваў
Сяргей ЁРШ

**Навіны**

## ДЫК КАЛІ Ж БУДЗЕ ГАРАЧАЯ ВАДА?

**Вось ужо месяц, як жыхары Слоніма пакутаюць ад адсутнасці гарачай вады ў кватэрах.**

Згодна абяцанняў жыллёва-камунальнай службы горада, гарачая вада павінна была з'явіцца 9 ліпеня, аднак спадзяванні людзей не спраўдзіліся. Больш таго, тэрміны яе падачы адцягнуты на нявызначаны тэрмін.

Як заявіў карэспандэнту газеты першы намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Конан, "гарачая вада з'явіцца, прыкладна, праз паўтара тыдні". На пытанне: калі дакладна, спадар Конан адказаў: "Не ведаю". Ён патлумачыў, што ўсё будзе залежыць ад таго, як хутка спецыялісты зробяць рамонт цеплавога абсталявання.

## СНАРАДЫ НА ІСЕ

**Нядаўна, падчас купання на Ісе, хлапчукі выцягнулі з рэчкі 76-мм снарад з часоў вайны.**

На шчасце, жалезная балванка была без узрывальніка і ўзрывачаткі. Тым не менш дзеці паведамілі, што на тым месцы яны бачылі яшчэ некалькі снарадаў.

Начальнік штаба грамадзянскай абароны горада Уладзімір Кукушкін сказаў карэспандэнту "ГС", што пра гэтую знаходку ён паведаміў у ваенкамат. Па яго словах, снарадамі павінны заняцца сапёры.

## НА РАДЗІМУ - З ПАКЛОНАМ

**Учора, 10 ліпеня, да помніка воінам-вызваліцелям быў ускладзены вянок ад імя гасцей з замежжа.**

Такім чынам ушанавалі памяць загінуўшых салдат 24 грамадзяніна Ізраіля, якія наведалі наш горад. 3 групы гасцей - 12 былых слонімцаў, астатнія нарадзіліся ў Дзярэчыне, Дзятлаве і Навагрудку. Усе яны ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны.

Як заявіў карэспандэнту "ГС" кіраўнік слонімскай грамады ў Ізраілі, былы партызан Цві Шэфет, нашы землякі прыехалі на Радзіму, каб нізка пакланіцца тым, хто загінуў і быў закатаваны гітлераўцамі ў гета, канцлагерах, гестапа. Дарэчы, у Слоніме ў час вайны, немцы забілі звыш 30 тысяч габрэяў.

**Анатоль МІРСКІ**



**СВЯТА** *Четыре дня, четыре ночи...*

# Гуляй, народ!



Праздновать разные там праздники всегда лучше, чем работать. А если это еще и праздник Труда, здесь, как говорится - веселись душа и тело.

Похоже на то, что именно на такой размах народного гулянья и был рассчитан уикэнд (Свята працы), который состоялся в прошлую субботу, 5 июля, в городском парке. Надо отдать должное его организаторам и участникам: все прошло по полной программе. Сначала была традиционная торжественная часть с выступлением ведущих и руководителей района. Они отметили лучших тружеников села и огласили их производственные показатели. Затем, после короткого антракта, народ оживился: запел, затанцевал... Каждое хозяйство района, а их у нас всего 19, довольно оригинально и художественно оформило импровизированные сельские "усадьбы". Вот, пожалуй, было на что посмотреть и чем можно было полюбоваться. Да еще на великолепные чудо-пироги, которые испекли славные мастерицы-кухарочки.

(Продолжение на 2-ой стр.)

*Пей до дна, пей до дна, пей...*





# Гуляй, народ!

Что ни пирог, то - удивительное творение мозолистых рук крестьянок. Однако, булки с шишками были на десерт. По запланированному сценарию почетные гости, в лице районного начальства, сначала должны были отведать пищу попроще: грибочки, огурчики, немного свининки и, конечно, откушать водочки. А для лучшего пищеварения им играли, пели и плясали. С одной стороны, таким гостем быть и неплохо, а с другой - надо иметь крепкое здоровье, чтобы обойти все "хаты" и не обидеть гостеприимных хозяев. Тем не менее, все обошлось. Очевидцы отмечают, что обиженных не было. Только далеко за полдень люди собрали свои вещи, погрузились в колхозный транспорт и под звуки гармошки разъехались по домам. Многих из них ждала вечерняя дойка. Начальство также покинуло праздник, наверное, чтобы немного отдохнуть.



А тем временем на Оперной улице и в парке полным ходом шли приготовления к вечернему представлению - празднику Купалье. Работники торговли словно чувствовали, что народ за ценой не постоит, и поэтому подтянули к месту событий всё лучшее, что у них было. Публика в знак благодарности не скупилась и охотно покупала: детям - повкуснее, а себе - погорячее. Короче, народ гулял. Старожилы отмечают, что за последнее десятилетие слонимский парк культуры и отдыха ещё не принимал такого большого количества людей. Буквально каждый квадратный метр был превращён в застолье. Постоянные обитатели парка, вороны, кружили стаями в сумерках над своими гнёздами, пугаясь шума и гама на некогда тихом и спокойном месте.

Чувствовалось, что в тот вечер водка лилась намного быстрее, чем текли мутные воды в канале Агинского, где проходили театрализованные представления с кострами й фонтанами. Главный костёр Купалья больше всего порадовал ребятишек, а когда он погас, почему то погасли и электрические фонари. Наверное, кто-то посчитал, что в темноте у добровольцев найти "Папарацькветку" шансы значительно увеличатся. Однако такие счастливчики в купальскую ночь замечены не были. Больше всего повезло тем, кто к концу веселья пришёл в парк собирать пустые бутылки. Оттуда они уходили, согнувшись под тяжестью мешков.

А в общем все остались довольны. И праздник, созданный народом, мы в Слониме отметили не хуже других. По сообщению милиции, в ночь с 5 на 6 июля ,были задержаны только 4 человека: один мертвецки пьяный и три - за мелкое хулиганство.

**Сергей ЧИГРИН**
**Володя ЯНЧУК**





**Горад** *Нашы ветэраны*

## У КОЖНАГА СВАЯ ПАМЯЦЬ

**У слонімскіх ветэранаў вайны і працы – гэта народны хор «Памяць», які ўжо восем з паловай гадоў існуе пры раённым Доме культуры.**



*На здымку: народны хор "Памяць"*

Яго ўзначальвае Аляксандр Клябанаў. Высокае прафесійнае майстэрства хору знайшло прызнанне ў гледачоў і слухачоў Беларусі. Хор неаднаразова станавіўся пераможцам раённых і абласных конкурсаў. А нядаўна ён стаў лаўрэатам Трэцяга Рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці «Не старэюць душой ветэраны».

І сапраўды, нашы ветэраны-землякі добрасумленна нясуць сваю службовую варту. Сёння яна працягваецца ў іх песнях, якія ўслаўляюць прыгажосць чалавечых імкненняў, усё тое, што заўжды кранае душу.

**Міхась АКУЛКА**

**Горад** *Нашы госці*

## ЧЫКАГА – ДОБРА, СЛОНІМ – ЛЕПШ

Амаль месяц гасцюе ў нашым горадзе грамадзянка ЗША Рагнеда Казлоўская з Чыкага.

Гэта яе ўжо трэці візіт на Бацькаўшчыну. Сям'я спадарыні Рагнеды пакінула Слонім яшчэ ў 1942 годзе, калі фашысты тут учынілі жорсткі тэрор супраць палякаў і габрэяў. Пасля вайны Казлоўскія пасяліліся ў Злучаных Штатах.

Аднак, сваёй радзімай яна лічыць Слонімшчыну, дзе нарадзілася, вырасла і вучылася. Тут засталіся сяброўкі дзяцінства, знаёмыя, сустрэчы з якімі для яе — самыя радасныя і прыемныя хвіліны жыцця. Акрамя таго, Рагнеда Казлоўская спрабуе адшукаць сляды апошніх гадоў жыцця свайго бацькі — капітана царскай арміі, двараніна Пугач-Мурашкевіча, які пахаваны на Навагрудчыне.

**Іван ХАХЛОЎ**

## ПЕСНЯ І ТАНЕЦ – ЛЕПШЫ СРОДАК ДЫПЛАМАТЫІ

Польскі дзіцячы ансамбль «Іна» з горада Галенёва і капэла «Галенёўская» у Слоніме былі чатыры дні.

У горад яны прыехалі па запрашэнню артыстаў ансамбля «Званочак» СШ № 8. Усе госці (дэлегацыя налічвала 44 чалавекі) жылі ў сем'ях слонімцаў. Для палякаў гаспадары падрыхтавалі цікавую і разнастайную праграму. Яны мелі магчымасць азнаёміцца са славутасцямі нашага краю, сустрэцца з кіраўніцтвам горада і раёна. Аднак палякі паказалі і сябе. Яны далі некалькі канцэртаў на сцэнах Дома афіцэраў і РДК. За гэта слонімцы аддзячылі ім працяжнымі апладысментамі і вялікімі букетамі кветак. А напрыканцы візіту для гасцей быў арганізаваны развітальны пікнік з велізарным вогнішчам на возеры, што ў мікраёне «Энка».

**Наталля ФУРСАВА**

## УЗДЗЕНСКІЯ ВАНДРОЎНІКІ

Днямі Слонім наведалі жыхары райцэнтра Узда Мінскай вобласці, сябры мясцовага літаратурнага аб'яднання «Нёманец».

Госці пазнаёміліся з літаратурным жыццём нашага горада, пабывалі ў Жыровічах, наведалі іншыя праваслаўныя і каталіцкія святыні. А вечарам, на дачы ў слонімскага паэта Рудольфа Пастухова, пілі ўздзенскі каньяк і слонімскія напоі, а таксама чыталі вершы і гумарэскі.

**Міхась АКУЛКА**

**ИНТЕРВЬЮ**

## НАШИ ЛЮДИ В ИЗРАИЛЕ

**Слонимский историк Игорь Подгородецкий побывал в Израиле. С ним недавно состоялся мой разговор.**

*— Игорь Иванович, как живётся нашим землякам в Израиле? И что вас поразило в этой стране?*

— За то время, которое я находился в Израиле, я видел лишь одного нищего араба на Иерусалимском автовокзале. Так что, землякам нашим и другим людям живется там неплохо. Поразили меня также бодрые и жизнерадостные старики на улицах, здоровая и физически развитая молодежь. Ни разу я не видел на улице девушку или парня с сигаретой в руке, не говоря уже о выпивших... Государство культивирует здоровый образ жизни, спорт. В школах ежедневно минимум по два часа занятий физической культурой, потом — душ, бассейн. Солдаты идут домой на выходные с автоматами за плечами — государство им доверяет. В стране обилие легковых машин (по статистике 1,8 на семью) и в то же время — чистый воздух в городе. Очень строгие наказания за нарушение правил дорожного движения. Например, если сел нетрезвый за руль — лишаешься права вождения автомобиля пожизненно, превысил скорость — плати сумму, эквивалентную семидесяти долларам и т. д.

*— До 1941 года в Слониме преобладало еврейское население. Но война очень повлияла на этническую жизнь нашего города. Не так ли?*

— Да, война лишила Слоним своеобразного шарма многонационального местечка, убила его душу. Несколько десятков выживших евреев, в основном бывших партизан, поехали создавать своё новое государство. Сегодня в Израиле существует община слонимчан. Руководит ею ветеран войны Цви Шефет. Община издаёт свой журнал, проводит обширную культурно–просветительскую работу.

**Беседовал Сергей ЧИГРИН**

**Таямніцы** *Клады земли Слонимской*

# Сокровища лежали под боком милиции

В последнюю войну на Слонимщине действовал партизанский отряд, которым командовал лихой мужик П. Он охотно принимал в свой отряд бежавших из гетто евреев. По утверждению очевидцев, за это он брал с них налог - валюту и золото. Официально он говорил, что ценности переправляются в Москву на строительство танковой колонны. На самом деле половину золота П. прятал в своих многочисленных тайниках.

После освобождения Слонима П. не пошёл на фронт, а работал в милиции, которая тогда занимала двухэтажное здание по улице Советской (сейчас там находится детская поликлиника). Однажды его навестил знакомый еврей. Гость не стал юлить и предложил своему бывшему партизанскому командиру заманчивую сделку. Оказалось, что бывший хозяин этого дома, богатый еврей, ещё осенью 1939 года зарыл свои сокровища неподалёку от дома в саду. Еврей надеялся, что смутные времена пройдут и тогда золотом он снова воспользуется. Однако, в годы фашистской оккупации еврей погиб. Но перед смертью успел передать эту тайну своему родственнику, который вскоре перебрался в лес.

П. с энтузиазмом взялся за дело. Вооружившись лопатами, компаньоны перекопали едва ли не все подступы к милиции. Клад они всё же нашли и поделили поровну. На этом и распрощались. П. продолжал жить жизнью подпольного миллионера, а еврей поехал в Польшу, намереваясь выехать оттуда в Америку. На границе всё золото у него конфисковали. Потом неудачливый боевой соратник «бомбардировал» письмами П. и просил поделиться золотом. П. молчал и только проклинал глупого компаньона, который свою долю потерял , да ещё и его подводит «под монастырь». И действительно, органы вскоре узнали про клад и перекопали весь огород П., но ничего не нашли. А позже сам хозяин–миллионер запамятовал под какой яблоней зарыл ценности.

Уже нет в живых П., а по местам его «боевой славы» всё ещё ходят ребята с лопатами и надеются на успех.

**Андрей ТУРУК**



